наша свабода

№44 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

28 ЛІПЕНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## Лошыца: сум будучыні



стар.7

# Блакітны экран чырванее

Мікіта ПАЎЛАЎ

**Прызначэнне Віктара Чыкіна старшынёй нацыянальнай тэлерадыёкампаніі прагучала громам сярод яснага неба. Чакалі каго заўгодна: чарговага выхадца з Магілёва, адыёназа Зімоўскага, апальнага Пашкевіча, нават імя Уладзіміра Пятровіча Замяталіна прыгадвалі. Але ў бок камуністычнай партыі не глядзеў ніхто. Тым больш «прыемным» аказаўся сюрпрыз.**



Віктар Чыкін. Сакратар Камуністычнай партыі Беларускай. Радасць жыцця...

Фота з архіву

Цяпер гледачы змогуць парадавацца таму, што з эфіру першага беларускага канала яны даведаюцца — колькі менавіта ўгнаенняў вывезена на родныя палі, якую думку партгаспсаціў мае па пытанні дня... Супрацоўнікі тэлекампаніі могуць парадавацца таму, што імі ізноў кіруе непрафесіянал, які мае вельмі смутнае прадстаўленне пра журналістыку, абмежаванае трыма складанымі часткамі і трыма вытокамі камунізму. Затое лідэры беларускай апазіцыі могуць парадавацца таму, шо пытанне аб іх допуску да прамога эфіру вырашана канчаткова і беспаваротна.

Можна колькі заўгодна гаварыць пра прафесійныя журналісцкія якасці вернага леніnца, але давяраць перадвыбарчы эфір лідэру Камуністычнай партыі Беларускай вельмі рызыкоўна. У выніку апазіцыя атрымлівае яшчэ адзін козыр у барацьбе за свой няўдзел у выбарах. Што можна гаварыць пра галоснасць і дэмакратычнасць выбарчай кампаніі, якую асвятляе лідэр адной з партыяў, што бярэ ў выбарах самы актыўны ўдзел. А калі нагадаць, што апошні час Віктар Валянцінавіч працаваў у Мінскім гарвыканкаме, і ягоныя непасрэдныя абавязкі заключаліся ў перманентным адказе апазіцыйным партыям праводзіць шэсці і мітынгі...

Не будзем хітраваць, з журналісцкай працай Віктар Чыкін знаёмы даўно. Старажылы памятаюць яго ў ролі сакратара па ідэалогіі Мінскага гаркама партыі і куратара партыйных сродкаў масавай інфармацыі. І няўдалы праект штотыднёвіка «Кур'ер» таксама памятаюць. І найлепшую газету Мінскага гадзіннікавага завода «Мы и время», якая за некалькі гадоў вырасла ў орган кампартыі рэспублікі і ласкава была празваная ў народзе «Мы евреи», якую рэдагаваў В.Чыкін. Так што, чаго чакаць ад новага старшыні, калегі ведаюць. Чарга за гледачамі.

Свой першы працоўны дзень на тэлебачанні Віктар Чыкін пачаў з трансляцыі селектарнай нарады па пытанні аграпрамысловага комплексу з удзелам А.Лукашэнкі. Сімвалічны пачатак? ■

# «Усебеларускі з'езд перавысіць усе акты цяперашняга рэжыму»

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**Заўтра, а 10-ай гадзіне, у памяшканні ДК ТАА «Сукно» пачне працу Усебеларускі з'езд за незалежнасць.**

З ініцыятывай яго правядзення ў лютым гэтага года выступіла вялікая група грамадскіх дзеячаў, навукоўцаў, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі.

Галоўная мэта, дзеля якой праводзіцца Усебеларускі з'езд за незалежнасць, — выпрацоўка і прыняцце Акта незалежнасці, які мусіць засведчыць імкненне беларускага народа захаваць самастойнасць дзяржавы.

Аргкамітэт па правядзенні з'езда ўзначалілі чатыры сустаршыні: паэт Рыгор Барадулін, грамадскі дзеяч і дыпламат Генадзь Бураўкін, акадэмік Радзім Гарэцкі і гісторык Анатоль Грыцкевіч. Неабходнасць правядзення такога мерапрыемства менавіта цяпер яны тлумачаць усё ўзрастаючай пагрозай паглынання Беларусі Расійскай Федэрацыяй. Па словах арганізатараў, пытанне аб тым, ці будзе Беларусь самастойнай дзяржавай, застаецца адкрытым. З'езд павінен прадэманстраваць усяму свету, што далёка не ўсе грамадзяне Беларусі, як гэта падае афіцыйная прапаганда, падтрымліваюць інтэграцыйныя памкненні цяперашняга ўрада.

Сёлетні з'езд фактычна з'яўляецца пераемнікам Усебеларускага з'езда 1917 года. Тады 1.872 дэлегаты вырашалі лёс беларускай дзяржаўнасці. Лозунг, які прагучаў на з'ездзе: «Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка», стаў пралогам да абвяшчэння незалежнай беларускай дзяржавы ў сакавіку 1918 года.

Мяркуецца, што ва Усебеларускім з'ездзе за незалежнасць прымуць удзел прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Беларусі, вылучаныя па тэрытарыяльным прынцыпе на сходах грамадскасці, а таксама дэлегаты ад палітычных партыяў, творчых і прафесійных саюзаў, іншых аб'яднанняў. Ужо цяпер на з'езд вылучана больш за васемсот чалавек, хаця пратаколы аб вылучэнні дэлегатаў у аргкамітэт з'езда працягвалі паступаць і на момант, калі нумар рыхтаваўся да друку.

Што чакаюць ад з'езда людзі, якія спрычыніліся да яго правядзення самым непасрэдным чынам? Чым ён з'яўляецца для іх?

**Генадзь БУРАЎКІН, сустаршыня:** «Думаю, што Усебеларускі з'езд за незалежнасць стане самай памятнай і важнай падзеяй у маім жыцці. Хацелася б, каб такой падзеяй ён стаў і для ўсёй краіны. Я чакаю ад яго пацвярджэння беларускім народам святога імкнення да самастойнасці і незалежнасці дзяржавы, захавання сваёй самабытнасці, права існаваць як народу. Тое, што міністэрства юстыцыі заявіла пра адсутнасць юрыдычнай сілы любога акта, прынятага на нашым з'ездзе, мяне асабіста не хвалюе. Бо, як паказвае гісторыя, не ўсё вырашаецца дэкрэтамі і ўказамі ўлады. Ёсць рэчы, вышэйшыя за іх. Усебеларускі з'езд за незалежнасць, безумоўна, па сваім значэнні перавысіць усе акты цяперашняга рэжыму. Тым больш, што ён ужо цэлы год з'яўляецца нелегітымным».

**Радзім ГАРЭЦКІ, сустаршыня:** «Лукашэнка адну за адной падпісвае нейкія саюзныя дамовы, пра якія ў Беларусі мала што ведаюць. На ўвесь свет ён крычыць пра вострае жаданне беларусаў з некім аб'яднацца. Калі так будзе працягвацца, то ў гэтую хлусню могуць паверыць не толькі замежнікі, але і мы самі. Каб такога не здарылася, мы на з'ездзе і скажам ва ўвесь голас, на ўвесь свет пра сваё памкненне да свабоды і самастойнасці».

**Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ, кіраўнік рабочай групы:** «Акт незалежнасці, які мы мяркуем прыняць на з'ездзе, стане яшчэ адной цаглінай у падмурак беларускай дзяржаўнасці. Цяпер там знаходзяцца такія лёсавызначальныя дакументы для гісторыі Беларусі, як Статутная грамата аб незалежнасці 1918 года і Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь 1990 года». ■

**ДА ВЕДАМА ДЭЛЕГАТАЎ УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ**

**Усебеларускі з'езд за незалежнасць адбудзецца 29 ліпеня 2000 года ў памяшканні ДК ТАА «Сукно» па адрасе: вул.Матусевіча, 20.**
**Першае паседжанне пачне сваю працу а 10-ай гадзіне.**
**Пачатак рэгістрацыі ў 8.30.**
**Сакратарыят аргкамітэта Усебеларускага з'езда.**

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Расійскі інжынер, які працаваў у касмічным цэнтры ЗША імя Джонсана, патануў у басейне пасля таго як адзначыў з сябрамі паспяховую састыкоўку модуля «Зорка» з Міжнароднай касмічнай станцыяй.** Паліцэйскія горада Х'юстана паведамілі, што 38-гадовы расійскі спецыяліст, імя якога пакуль невядомае, знойдзены ў сераду на дне басейна ў шматкватэрным доме, дзе ён жыў. У ноч з аўторка на сераду небарака выпіваў з іншымі сваімі суайчыннікамі. Расійцы – яны і ў Амерыцы расійцы!

■ **Дзяржд эпартамент ЗША выступіў з крытыкай прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна за тое, што ён правёў у Маскве сустрэчу з намеснікам прэм'ер-міністра Ірака Тарыкам Азізам, на якой абмяркоўваліся мажлівасці скасавання санкцыяў супраць гэтай краіны з дыктатарскім рэжымам.** Прэс-сакратар амерыканскай адміністрацыі Філіп Рыкер заявіў учора, што ў адпаведнасці з рэзалюцыямі ААН аніводная дзяржава-ўдзельніца Рады Бяспекі гэтай арганізацыі не павінна прымаць іракскіх чыноўнікаў. Разам з тым афіцыйны прадстаўнік дзяржд эпартамента выказаў надзею, што Масква пацвердзіла Багдаду неабходнасць цалкам выконваць усе рэзалюцыі, у тым ліку тую, якая прадугледжвае кантроль над падазронымі цэнтрамі верагоднай вытворчасці зброі масавага паражэння.

■ **У кубінскай сталіцы Гаване пазаўчора прайшла традыцыйная шматтысячная маніфестацыя, прысвечаная гадавіне штурму ў 1953 годзе паўстанцамі на чале з Фідэлем Кастра ваенных казармаў Манкада.** Гэта адно з самых галоўных дзяржаўна-рэвалюцыйных святаў на Кубе. Наперадзе шэсця рушыў сам 73-гадовы Ф.Кастра. Дэманстранты, колькасць якіх, па дадзеных арганізатараў, перавыходзіла 1 млн. чалавек, скандзіравалі: «Далоў эмбарга, няхай жыве Радзіма!» Пратэст супраць палітыкі гандлёва-эканамічнай блакады ЗША ў дачыненні да «выспы Свабоды» кубінскі лідэр назваў адной з мэтаў маніфестацыі. Дзеля гэтага маршрут шэсця спецыяльна палягаў міма будынка Аддзела інтарэсаў ЗША на Кубе.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**985**

 



## У СПБ забіраюць паперы аб рэгістрацыі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Зусім нечаканай праблемай сутыкнуўся Свабодны прафсаюз Беларускі падчас спробы зарэгістраваць у міністэрстве юстыцыі свой новы Статут.

Чыноўнік мінюста Нэлі Фішкіна, якая раней «зарубіла» рэгістрацыі сатэлітных СПБ Саюз прадпрымальнікаў і Саюз студэнтаў, у гэты раз таксама дадала прафсаюзнікам галаўнога болю. Па словах старшыні СПБ Генадзя Быкава, у хуткім часе пасля падачы у міністэрства юстыцыі новага Статута яна даслала прафсаюзу паперу, у якой патрабуе тэрмінова адправіць ёй на разгляд спіс усіх дэлегатаў пазачарговага з'езда СПБ, які і прыняў гэтыя змены, а таксама ў тыдднёвы тэрмін вярнуць у міністэрства пасведчанне аб рэгістрацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага, што было выдадзенае год таму.

Між тым, па словах Г.Быкава, гэта абсалютна недарэчная трактоўка пункта «Палажэння аб рэгістрацыі», дзе запісана, што старое пасведчанне аб рэгістрацыі мяняецца на новае. Але ж калі цяпер СПБ аддасць сваё старое пасведчанне і будзе тры месяцы, а то і паўгода чакаць новага, дык дзейнасць у гэты перыяд апынецца як бы пад забаронай, паколькі фактычна ніякіх папераў аб рэгістрацыі ў прафсаюзнікаў не будзе. Спадар Г.Быкаў лічыць такі ход рэчаў абсурдным і збіраецца паставіць гэтае пытанне на сустрэчы ў мінюсце. ■

## Трасы пад перагрузкай

**Вольга АНЦІПЕНКА**

За 5 месяцаў бягучага года аб'ём транзітных перавозак праз Беларусь скараціўся на 14%. Гэта звязанае і з сістэмай дарожных збораў, і са станам дарог на тэрыторыі рэспублікі.

Паколькі ўсе дарогі на тэрыторыі Беларусі (у тым ліку і траса М1 - «Брэст–Мінск–Масква») будаваліся па савецкіх стандартах, дык адпаведна ім дапусцімая норма нагрузкі транспартных сродкаў складае 10 тон. Цяпер такія перавозкі нерэнтабельныя. Пастанова Савета міністраў, якая ўступіла ў дзеянне 1 студзеня 2000 г., вызначыла дапусцімы вагавы параметр у 21 тону. Было падлічана, што на рамонт дарог зараз будзе выкарыстоўвацца на 17 мільёнаў долараў больш, а 83 кіламетры трасы ўвогуле патрабуюць замены, бо не ў стане вытрымаць такія нагрузкі. Аднак замежныя грузы фарміруюцца ў адпаведнасці з еўрапейскім стандартам, якія пераўзыходзяць нашы. Напрыклад, у Польшчы дапусцімая нагрузка складае 24 тоны.

12 ліпеня бягучага года ў дзеянне ўступіла яшчэ адна пастанова Савета міністраў. Яна дапускае праезд без аплаты па трасе «Брэст–Мінск–Масква» транспартных сродкаў з нагрузкай 24 тоны. Аднак ніхто не дае адказу, дзе шукаць сродкі на рамонт дарогі. Увесь агульны рэспубліканскі дарожны фонд складае 80 мільярдаў рублёў. У апошні час падатковыя дарожныя зборы скараціліся на 30%. Колькі пратрымаюцца пры павышаных нагрузках старыя дарогі – невядома. ■

## Завершана 13-я «рассветаўская» справа

**Юрась ВЯЧКА**

25 ліпеня Кіраўскі раённы суд паставіў апошнюю кропку ў крымінальных справах, узбуджаных супраць кіраўнікоў славутага АТ «Рассвет», якое некалі ўзначальваў Васіль Старавойтаў. Да двух гадоў папраўчых работ па месцы працы з вылічэннем 20% заробкаў прыгавораная галоўны бухгалтар «Рассвета» Ніна Чубукова. Бухгалтарка прызнаная вінаватай у крадзяжах у буйных памерах, у схаванні даходаў, ва ўтойванні падаткаў, выманьванні крэдытаў, хаця – і суд гэта прызнаў – асабіста Н.Чубукова не мела ад сваіх «злачынстваў» ніякай матэрыяльнай выгады. Апрача таго, суд канфіскаваў у Ніны Чубуковай маёмасць і пазбавіў права на тры гады займаць пасады, звязаныя з улікам, захоўваннем і распараджэннем матэрыяльнымі сродкамі. Так што цяпер ёй, відавочна, давядзецца шукаць іншае месца працы.

Пакаранне ў два гады папраўчых работ называецца досыць мяккім. Гэта тлумачыцца тым, што пры вынясенні канчатковага прыгавору суд улічыў шэраг змякчальных абставінаў: Ніна Чубукова – маці дваіх непаўналетніх дзяцей; за два гады знаходжання пад падпіскай аб нявыездзе былая бухгалтарка ўсяляк садзейнічала следству.

На гэтым, трынаццатым па ліку, прыгаворы «рассветаўская» эпапея завяршылася. ■

## Правалы ў эканоміцы і ўзлёты ідэолагаў

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

Апошнія прызначэнні ў апараце Брэсцкага аблвыканкама колькасна ўмацавалі «гаворачы» сектар. Цяпер тут, як і ў іншых вярхушках вертыкальнай улады ў рэгіёнах, ёсць упраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі, а над ім – новы намеснік старшыні Леанід Цупрык і асабісты прэс-сакратар старшыні аблвыканкама Аляксандр Жук. Першы з іх перабіраецца ў Брэст з Баранавіч, дзе таксама сядзеў у крэсле намесніка старшыні гарвыканкама і адказваў за ідэалогію. 37-гадовы А.Жук развітаўся нарэшце з юнацтвам у Беларускім саюзе моладзі, дзе ён быў нязменным першым сакратаром Брэсцкага абкама.

Старшыня Брэсцкага аблвыканкама Васіль Далгалёў нідзе і ніяк не патлумачыў павелічэнне свайго штату. Але давядзіцца меркаваць, што яму зараз вельмі патрэбныя рупары ўлады. Напярэдадні выбарчай кампаніі трэба неяк апраўдвацца перад насельніцтвам, чаму, напрыклад, за першае паўгоддзе ў вобласці 442 стратныя прадпрыемствы. Бюджэт за гэты час выкананы толькі на 41,1 %. Запазыка мясцовых суб'ектаў гаспадарання перад бюджэтам — 748,4 мільёна рублёў. Пра агульнае павышэнне коштаў тавараў і паслугаў вобласці сведчыць павелічэнне выкінутых у абарот з банкаў яшчэ 13 мільярдаў рублёў. ■

**СПОРТ**

## Эдуард Малафееў: «Будзем перамагаць!»


Фота Ул.ШЛАПАКА

**Алесь СТАЎСКІ**

Сустрэча балельшчыкаў з новым галоўным трэнерам зборнай Беларусі па футболе, чалавекам-легендай беларускага футбола Эдуардам Малафеевым, безумоўна, была галоўнай падзеяй таго, што адбывалася 26 ліпеня ўвечары на мінскім стадыёне «Дынама». І Эдуард Васільевіч балельшчыкаў абнадзеіў. Па-першае, ён паабяцаў, што зборная пад яго кіраўніцтвам мусіць перамагчы ў адборачным турніры да чэмпіянату свету па футболе. А калі Малафеева спыталі, дык у які ж футбол будзе гуляць зборная Беларусі, у сучасны, ці ў ранейшы, прыхільнікам якога, як вядома, з'яўляецца Малафееў, дык ён адказаў: «А ці не ўсё роўна вам, калі мы будзем перамагаць?!» З Малафеевым балельшчыкі размаўлялі нават нягледзячы на дастаткова моцны дождж і вецер...

А папярэднічала сустрэчы гульня двух зборных клубаў беларускага футбольнага чэмпіянату пад умоўнымі назвамі «А» і «Б». Апошнія перамаглі з лікам 1:0, мяч на дзевятай хвіліне забіў ігрок магілёўскага «Дняпра-Трансмаша» Дзмітры Ліхтаровіч. У нядзелю, 30 ліпеня, пройдзе паўторная гульня гэтых камандаў на «Дынама». Уваход на стадыён бясплатны. ■

## «Кубак Незалежнасці» дастаўся «Волату»

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Восем камандаў з усіх рэгіёнаў Беларусі прынялі ўдзел у розыгрышы маладзёжнага «Кубка Незалежнасці», які два дні праходзіў каля вёскі Дымкі (цяпер у межах Барысава). У першы дзень адбыліся групавыя турніры, па дзве лепшыя каманды з якіх трапілі ў фінальную частку. А там у напружанай барацьбе крышталёвую вазу здабылі гаспадары турніру, ігракі каманды «Волат» з Барысава. У фінале яны перамаглі больш вопытных футбалістаў з мінскай «Супольнасці».

Акрамя ўласна футболу, гульцам давялося «пакаштаваць» паходнага жыцця: начоўкі ў намётах, гатаванне ежы на вогнішчы, вечаровае сядзенне ля вогнішча з гітарамі. Арганізатары турніру, у якіх «першы блін» атрымаўся зусім не комам, вырашылі праводзіць «Кубак Незалежнасці» штогадова ў гэты ж час ды прыцягнуць да ўдзелу ў ім больш камандаў. ■



## БАТЭ мае шанец згуляць з «Інтэрам»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Нечакана паспяхова згулялі футбалісты барысаўскага футбольнага клуба БАТЭ ў першым матчы другога раўнда розыгрышу Лігі чэмпіёнаў. Яны ў гасцях у шведскага клуба «Хельсінборг» здолелі здабыць нічыю з лікам 0:0, і цяпер мяча вялікія шанцы на выхад у наступны этап спаборніцтваў. Для гэтага ім патрэбна перамагчы шведаў 2 жніўня ў гульні, якая адбудзецца ў Мінску на стадыёне «Дынама».

Тым часам прайшла жараб'ёўка наступнага этапа розыгрышу, і стала вядома, што пераможца пары БАТЭ – «Хельсінборг» правядзе дзве гульні са знакамітым італьянскім «Інтэрам». І хаця зразумела, што шанцаў на перамогу над італьянцамі ні ў беларусаў, ні ў шведаў няма, ужо сам па сабе факт двухматчавага спарынга з такім грандам шмат значыць як для прэстыжу клуба, так і для росту майстэрства яганых ігракоў. ■

## Таямнічы замах на Міколу Статкевіча

**Рыгор БУЯН**

Раніцай 25 ліпеня аўтамабіль «Фальксваген-пасат» лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Народная Грамада Міколы Статкевіча ледзь не патрапіў у аварыю. У аўтамабілі знаходзіўся толькі вадзіцель, калі заклініла тармазную калодку. Прафесіяналізм вадзіцеля дазволіў пазбегнуць аварыі. Прычынай няспраўнасці, якая ледзь не прывяла да аўтакатастрофы, стаў сінтэтычны шнурок, намотаны паміж тармазной калодкай і дыскам кола. Для «надзейнасці» шнурок быў прывязаны двума вузламі, адзін з якіх у выніку і заклініў калодку. Згаданая акалічнасць, а таксама той факт, што гэтым днём лідэр Народнай Грамады разам з нямецкім сацыял-дэмакратам віцэ-спікерам парламента Зямлі Шлезвіг-Гальштэйн Габрыэлай Кётшаў збіраўся паехаць у Гродна на мерапрыемства, арганізаванае рэгіянальнай структурай Народнай Грамады, наводзіць на думкі пра загадзя спланаваны характар акцыі супраць Міколы Статкевіча. ■

## Жанчыны выступілі ў абарону Юліі Чыгір

**Юрась ВЯЧКА**

29 беларускіх жанчын – жонак і мацярок вязняў сумлення — выступілі са зваротам у абарону адваката і жонкі былога прэм'ер-міністра Юліі Чыгір. Зварот праз КНГ АБСЕ перададзены кіраўнікам еўрапейскіх краінаў. Зінаіда Хількo, Любоў Шчукіна, Тамара Валковіч-Хашчавацкая, Ірына Красоўская ды іншыя пішуць: «Нашых родных ды блізкіх збіваюць на дэманстрацыях, зневажаюць, арыштоўваюць, ужываючы незаконныя прыёмы фізічнага ўздзеяння. Мы пазбаўленыя магчымасці абараніць свой гонар і годнасць у судзе. Ні адзін зварот па фактах незаконных дзеянняў міліцыі падчас разгону мітынгаў і дэманстрацыяў не задаволены. Затое ў адносінах тых, хто спрабаваў абараніць сябе ад насілля з боку міліцыі, рэпрэсіўная машына спрацоўвае на поўную моц».

Жанчыны не спадзяюцца на аб'ектыўны разгляд крымінальнай справы ў адносінах да Юліі Чыгір у судзе. Нагадаем, Ю.Чыгір інкрымінуюць умяшальніцтва ў дзеянні міліцыі і аказанне супраціўлення міліцыі падчас абнародавання прыгавору Міхаілу Чыгіру 19 траўня ў Мінскім гарадскім судзе. Юліі Чыгір пагражаюць два гады пазбаўлення волі. Жонкі і маці палітзняволеных лічаць, што судовы пераслед Ю.Чыгір дасць уладам магчымасць выбіць з палітычнага жыцця былога старшыню ўрада Міхаіла Чыгіра, які ўжо заявіў пра намер выстаўляць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года. ■

## Пленэр памяці Фердынанда Рушчыца

**Альбіна ТЫШКЕВІЧ**

Беларускі саюз мастакоў разам з Валожынскім і Ашмянскім райвыканкамамі вырашылі правесці пленэр, прысвечаны 130-й гадавіне з дня нараджэння выдатнага беларускага мастака Фердынанда Рушчыца (1870 — 1936). Многія палотны мастака захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Пленэр распачнецца ў вёсцы Багданаў, дзе быў маёнтак Рушчыцаў, дзе мастак нарадзіўся, шмат гадоў жыў, і ахопіць усе навакольныя мясціны, дзе Рушчыц часта бываў і любіў маляваць – Вішнева, Дзясятнікі, Крэва, Гальшаны. Да ўдзелу ў пленэры запрошаны мастакі з розных гарадоў Беларусі, Польшчы, Летувы, з якімі была звязаная мастацкая і педагагічная дзейнасць Рушчыца (ён быў прафесарам Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве, кракаўскай Акадэміі мастацтваў, а ў 1919-1932 гадах прафесарам аддзялення прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта). Пачатковую мастацкую адукацыю Фердынанд Рушчыц атрымаў у Мінску.

На свята ўшанавання памяці знанага жывапісца, графіка, тэатральнага дэкаратара таксама прыедуць з Варшавы сын і ўнук Рушчыца. Арганізатары пленэра мяркуюць, што гэтая акцыя дапаможа стварыць праект адбудовы сядзібы мастака, з размяшчэннем у ёй у будучыні дома-музея гэтага выдатнага творцы. Сядзіба была страчаная падчас вайны. Па выніках пленэра будуць наладжаныя мастацкія выставы ў Гальшанах і Багданаве. На снежань плануецца адкрыць выставу работ удзельнікаў пленэра ў сталіцы Беларусі, у адной з мастацкіх галерэяў.

Першы міжнародны пленэр у гонар Фердынанда Рушчыца пачнецца 4 жніўня і працягнецца 10 дзён. ■

## Швейцарскія «Альпы» не прайшлі

**Аляксей СТАЎСКІ**

На жаль, не наканавана і ў наступным годзе беларускай тэніснай зборнай згуляць у групе «А» розыгрышу Кубка Дэвіса – неафіцыйным чэмпіянаце свету па тэнісе сярод зборных камандаў. У апошнім адборачным этапе наша каманда зніевелявала ўсе свае ранейшыя дасягненні (перамогу над зборнай ПАР — 4:1), пацярпеўшы ашаламляльную паразу ад серадняячкоў-швейцарцаў з лікам 5:0. І гэта нягледзячы на тое, што ў складзе беларускай зборнай выступалі ўсе мацнейшыя – і сенсацыя нядаўняга «Уімблдона-2000» Уладзімір Валчкоў, і наш мацнейшы тэнісіст Максім Мірны. Цяпер у наступным годзе прыйдзецца пачынаць наноў праходжанне групы «Б». ■



 

# Сірэны для кітайскага госця

## Апавяшчэнне раўло бездакорна, але разззлавала Лукашэнку



Фота IREX/ProMedia

Картэж намесніка Старшыні КНР на вуліцах Мінска

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Вельмі непрыемны інцыдэнт адбыўся ў мінулую сераду падчас візіту ў Беларусь намесніка Старшыні Кітайскай народнай рэспублікі Ху Цзіньтао. Літаральна ў момант ягонай урачыстай сустрэчы з А.Лукашэнкам на парозе прэзідэнцкай рэзідэнцыі ўсе іншыя гукі, у тым ліку і ўрачыстае выкананне дзяржаўнага гімна Кітая, былі перакрытыя гулам сірэны на даху Дома афіцэраў. Грамадзянская абарона выпрабавала сістэмы апавяшчэння.**

Сірэна моцна зараўла якраз у момант пад'езду ўрачыстага картэжу з чорнымі лімузінамі і матацыклістамі да будынку адміністрацыі прэзідэнта. А.Лукашэнку, які сустракаў кітайскага госця на парозе, давялося абдымацца з ім пад тую ж сірэну. Вайсковы аркестр зайграў гімн Кітая. Гімна практычна не было чуваць – чутная была толькі сірэна. Гул сціх толькі калі вайскоўцы пачалі іграць афіцыйны гімн Беларусі.

Як нам стала вядома, А.Лукашэнку вельмі разззлаваў гэты інцыдэнт. Сапраўды, толькі пачынаеш абдымацца з дарагім сябрам – а тут такое! Па неафіцыйнай інфармацыі, ледзь не ўсім адказным за правядзенне «выпрабаванняў» давялося пісаць тлумачальныя. Гаварылі таксама пра «знятыя» галовы ў штабах і ўпраўленнях грамадзянскай абароны.

Мы звязаліся з начальнікам штаба грамадзянскай абароны горада Мінска Генадзем Варапаевым, каб пацвердзіць чуткі пра звальненні. «Нічога ўвогуле не было», – здзіўленым тонам адказаў ён нам. Па ягоных словах, выпрабаванні сістэмаў апавяшчэння грамадзянаў праходзілі ў адпаведнасці з планам, зацверджаным намеснікам міністра ўнутраных справаў – камандуючым унутранымі войскамі. У сродках масавай інфармацыі на працягу трох дзён ішла актыўная кампанія, у якой усім жыхарам горада тлумачылася пра вучэнні. У тую самую сераду ў 10.25 – за 5 хвілінаў да выпрабавання – беларускія тэлебачанне і радыё яшчэ раз папярэдзілі грамадзянаў пра выпрабаванні.

З іншых крыніцаў нам стала вядома, што адпаведнае папярэджанне атрымала і прэзідэнцкая адміністрацыя, і служба бяспекі. Але час правядзення выпрабавання там не быў пазначаны. Таму і атрымалася такая «накладка». Не выключана, дарэчы, што «неінфармаванасць» Г.Варапаева пра «разбор налётаў» у ягоным уласным ведамстве мае пад сабой дакладную падставу: чыноўніку не хочацца, каб «знятая» галава была ягонай.

Можна лічыць, дарэчы, што такога гучнага прыёму намеснік Старшыні Кітая яшчэ не сустракаў нідзе ў свеце – і наўрад ці калі сустрэне. ■

# Батурыну пашанцавала, што яму паверылі

Бартош ВЕНГЛЯРЧЫК, вашынгтонскі карэспандэнт Gazety Wyborczej

Добра інфармаваныя крыніцы ва ўрадзе ЗША пацвердзілі, што здарэнне з Батурыным прызнаецца тут як верагоднае. Амерыканцы правялі з урадам Лукашэнкі перамовы на тэму ўмоваў вяртання Батурына ў Польшчу, бо ўтрыманне ўцекача ў амбасадзе – гэта дарагая справа – сказалі ўрадоўцы, прычым дадалі: «Калі б не ўдалося яго вывезці, мы былі гатовыя трымаць Батурына хоць 14 гадоў, як венгерскага прымаса, які схаваўся ў амерыканскай амбасадзе ў Будапешце ў часе ўварвання туды савецкіх войскаў у 1956 годзе». Беларусы пагадзіліся на выезд Батурына пры ўмове, што ён абвергне сваю заяву, што яго выкралі з Польшчы лукашэнкаўскія спецслужбы. Вашынгтонскі інфарматар газеты сказаў: «Мы вагаліся , ці павінен ён гэта гаварыць. Ён сам баяўся заставацца ў Мінску, і мы хацелі як хучэй яго вывезці».

Раніцай у пятніцу Батурын даў інтэрв'ю, якое потым многа разоў круціла БТ. А праз пару гадзінаў яго вывезлі ў Польшчу. Амерыканцы не адразу паверылі Батурыну, падазравалі нават, што ім падсунулі правакатара. У рэшце рэшт, урад ЗША прызнаў, што яго сапраўды выкралі, і ў Мінску дазволілі ўцячы. Гэткім спосабам яго хацелі скампраметаваць. Другі амерыканскі размоўца гаворыць, што рэжым на прыкладзе Батурына хацеў адбіць ахвоту дысідэнтам уцякаць на Захад: ворагаў могуць дастаць і ў Польшчы, і на Захадзе. Інфарматар з Вашынгтона адзначыў, што польскі бок не ахоўваў Батурына. Папярэджвалі, што яму можа пагражаць небяспека, але палякі лічылі, што беларускія спецслужбы не адважацца на такі ўчынак у Польшчы.

З крыніцаў у Польшчы газета неафіцыйна даведалася, што амерыканцы папярэдзілі палякаў, што на Батурына палююць, амбасада РП у Мінску пераказала гэта МЗС у Варшаве, а тое ўжо перадало паліцыі. Батурын пакуль у Польшчы, але хутка выедзе ў ЗША. ■

**Варшава. Gazeta Wyborcza, 26.07.2000**

**Ад рэдакцыі:** На нашу думку, гэта версія цалкам верагодная, бо з крыніцаў у амерыканскай амбасадзе ў Мінску нам паведамілі, што ў дзень, калі Батурына везлі ў амбасаду, яе будынак быў шчыльна акружаны людзьмі ў цывільным. Значыць, ведалі, хто павінен з'явіцца...

# 7 гадзінаў допыту

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Першы допыт тэлежурналіста Паўла Шарамета па справе знікнення аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага доўжыўся 7 гадзінаў. Пра гэта нам паведаміў сам П.Шарамет. У мінулы аўторак ён прыехаў з Масквы ў Мінск, каб працягнуць уласныя пошукі калегі і сябра, які таямніча знік 7 ліпеня.**

Супрацоўнікі пракуратуры спрабавалі яшчэ ў аэрапорце «Мінск-2» уручыць журналісту позву, але П.Шарамет адмовіўся яе ўзяць. На наступны дзень ён сам прыйшоў да следчых. У П.Шарамета вельмі шмат справаў у Мінску, але ён знайшоў час для гутаркі з карэспандэнтам НАШАЙ СВАБОДЫ.

***– Ці надоўга Вы прыехалі ў Мінск?***

– Пакуль што я прыехаў да канца гэтага тыдня. Потым я з'езду і прыеду пазней яшчэ раз. Перш за ўсё гэта звязана з пошукамі Дзмітрыя Завадскага, ну і допытамі таксама.

Мы цяпер рыхтуем вялікую перадачу для ОРТ пра знікненні людзей у Беларусі. Вялікая частка матэрыялу там будзе прысвечаная менавіта знікненню Дзімы. Таксама мы распавядзем пра справы В.Ганчара, Ю.Захаранкі і іншых асобаў.

***– Як Вы маглі б пракаментаваць расследаванне знікнення Д.Завадскага, што вядуць цяпер следчыя органы?***

– Міліцыя і пракуратура робяць вельмі шмат. Яны дапытваюць вялікую колькасць людзей. Нам задаюць вельмі шмат пытанняў, якія зусім нават не датычаць знікнення Дзмітрыя Завадскага. Думаю, што потым яны змогуць скласці даволі поўную карціну жыцця нас – карэспандэнтаў ОРТ. Такім чынам, матэрыялу сабрана вельмі шмат – але ён ні на крок не набліжае нас да ісціны. Ніводнага сляду так і не знойдзена.

З размоваў з супрацоўнікамі сілавых ведамстваў нам зразумела: яны таксама пачынаюць лічыць, што вінаватыя спецслужбы, толькі не ведаюць, якія. Гэта ў іх унутраны бар'ер такі: яны не могуць сабе ўявіць, што гэта беларускія спецслужбы.

Мы лічым, што наша версія пра выкраданне Д.Завадскага беларускімі спецслужбамі атрымлівае пацвярджэнне.

***– Што менавіта схіляе Вас да такой думкі?***

– Дагэтуль не выназдзена нічога, што б гэтай версіі супярэчыла.

Міліцыя прыдумвае вельмі шмат версіяў, нават самых нерэалістычных.

***– Напрыклад?***

– Ну, прыкладам, што Завадскага «замовіла» дырэктар інфармацыйнай службы ОРТ Таццяна Кашкарова – каб назаліць мне, бо ў нас з ёю напружаныя стасункі.

Я лічу, што следчыя органы шукаюць не там. Замест таго, каб дапытаць сяброў Дзімы, нейкіх там знаёмых дзяўчат і г.д., варта было б дапытаць А.Лукашэнку, В.Шэймана, кіраўнікоў беларускіх спецслужбаў, паразмаўляць з начальнікам Службы бяспекі прэзідэнта Навумавым...

***– Але, на Вашую думку, які ж тут матыў? Нашто спецслужбам выкрадаць Завадскага?***

– Адназначнага адказу на 100% тут няма. Але мы спрабуем пайсці ад адваротнага. Бандыцкая версія не дае нічога. Асабістая – таксама нічога няма. Па лініі камерцыі – зноў-такі няма. Таму ў нас адна выснова – усё гэта звязанае са спецслужбамі. Наколькі мы ведаем, беларускія спецслужбы актыўна працуюць у Маскве, яны там займаюцца маскоўскімі мелярусамі, цікавяцца іхнімі сувязямі з радзімай, з апазіцыяй, устанаўліваюць нейкія планы.

Таму мэта адна – запалохаць, зламаць. Які матыў быў у знікнення Ганчара? Які матыў быў у знікнення Захаранкі? Які быў матыў, калі тры гады назад нас з Завадскім кінулі за краты? Усё гэта ўпісваецца ў адно – стварыць у краіне атмасферу псіхоза.

***– Нядаўна беларускае тэлебачанне ўзгадвала выпадак пра нейкага чалавека, які нібыта нешта ведаў пра Завадскага і патрабаваў 2,5 мільёны долараў за яго...***

– Так. Быў там адзін дагестанец, ужо раней двойчы судзімы за махлярства. Ён нам хацеў прадаць відэакасету, на якой нібыта запісаны Завадскі. Ім цесна занялося Маскоўскае гарадское ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Аказалася – звычайны махляр. У яго ў хаце ў Саратаве знайшлі чыстую відэакасету, за якую ён спачатку прасіў дзве з паловай тысячы долараў, потым сем тысяч. Ён цяпер сядзіць у Расіі, беларусам яго прапануюць забраць, але яны чамусьці не хочуць.

***– Ходзяць чуткі, што кіраўніцтва ОРТ не вельмі станоўча ставіцца да Вашых актыўных дзеянняў па пошуках Д.Завадскага, што яно не вельмі вітае Вашу пазіцыю...***



Фота IREX/ProMedia

– Гэта толькі чуткі. Іх распускаюць тут. Кіраўніцтва ОРТ вельмі актыўна займаецца пошукамі Д.Завадскага, вельмі шмат робіць. Чуткі распаўсюджваюцца наўмысна і з канкрэтнай мэтай. Людзей уводзяць у зман, каб схаваць ісціну.

***– Павел, апошнім часам з'явіліся апасенні, што супраць Вас могуць узбудзіць крымінальную справу за паклёп – на падставе Вашых выказванняў пра вінаватасць А.Лукашэнкі.***

– Так. Мяне ўжо тры разы афіцыйна пра гэта папярэджвалі.

***– У Мінску?***

– І ў Мінску, і ў Маскве таксама – па просьбе беларусаў. Але справу пакуль не ўзбудзілі.

***– І не страшна, што назаўтра ўзбудзяць?***

– А я ўжо стаміўся баяцца. Мой першы допыт доўжыўся сем гадзінаў. Спачатку гэта была міліцыя, потым – пракуратура.

***– Атрымалася размова?***

– Ну, з міліцыяй так нармальна паразмаўлялі, а з пракуратурай – нервова. Яны ўсё намагаліся пра паклён высветліць нешта. Але ў рэшце рэшт знайшлі агульную мову. Мяне будуць дапытваць яшчэ.

***– Якія планы на бліжэйшыя дні?***

– Займацца пошукамі, сустракацца з людзьмі... ■

# Незалежнасці альтэрнатывы няма

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Учора з удзелам дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў, а таксама прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў прайшоў «круглы стол» «10 гадоў суверэнітэту: вынікі пройдзенага шляху».**

Галоўнай думкай юбілейнага паседжання стала назва даклада старшыні БНФ Вінцука Вячоркі – «Незалежнасці няма альтэрнатывы». Намеснік спікера Вярхоўнага Савета «нешчаслівага» 13-га склікання Генадзь Цярэня спыніўся на праблемах беларускага парламентарызму, у прыватнасці, на няўдалай выбудове дачыненняў паміж дэпутатамі і прэзідэнтам у выніку таго, што той «не прадстаўляе якую-небудзь уладу, а стаіць па-над уладай». Разам з тым Г.Цярэня запрапанаваў, так бы мовіць, пражэктавую ідэю выхаду з канстытуцыйна-палітычнага крызісу. Яна прадугледжвае выпрацоўку дэпутатамі Вярхоўнага Савета змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, публікацыю іх у СМІ, зварот да Лукашэнкі, які павінен будзе прызначыць адмысловы рэферэндум і, нарэшце, правядзенне самога, з абавязковай умовай «празрыстасці», плебісцыту.

Трэба сказаць, што такі праект змяненняў і дапаўненняў ужо існуе. Яго яшчэ ў 1997 годзе распрацавала спецыяльная канстытуцыйная камісія на чале з праваснаўцам Міхаілам Пастуховым. Змест праекта ў тым, што Беларусь мусіць паратавіць, як гэта нядаўна было зроблена ў Малдавіі, з прэзідэнцкай у парламенцкую рэспубліку з паступовым скасаваннем пасады прэзідэнта наогул.

Пасля «круглага стала» ягоныя ўдзельнікі выправіліся на Маскоўскія могілкі, дзе а 14-ай гадзіне адбылося адкрыццё помніка на магіле Генадзя Карпенкі. ■

# Еўропа пакончыць з «беларускім пытаннем» 13 жніўня

Рыгор БУЯН

Праблему – накіроўваць ці не накіроўваць міжнародных наглядальнікаў на восеньскія выбары ў Беларусь – АБСЕ, Савет Еўропы, Еўрапейскі Саюз і Амерыканскае грамадскае аб'яднанне «Міжнародны фонд выбарчых сістэмаў IFES» вырашаць на канферэнцыі 13 жніўня ў Вене.

Пра блізкую развязку ў «беларускім пытанні» стала вядома пасля паседжання Кансультацыйнага савета апазіцыйных палітычных партыяў 25 ліпеня.

Афіцыйнаму Мінску прыйдзецца перажыць прыезд місіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая мае намер з 31 ліпеня па 4 жніўня вывучыць сітуацыю ў Беларусі перад парламенцкімі выбарамі. Паводле апошніх звестак, ПАСЕ дасылае ў Беларусь старшыню камітэта па палітычных пытаннях ПАСЕ Тэры Дэвіса, спецыяльнага дакладчыка па Беларусі Вольфганга Берэндта і прадстаўніка Чэхіі Цырылу Свабаду, каб сабраць як мага болей фактаў пра цяперашнюю сітуацыю ў краіне.

Намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка песімістычна ацэньвае прыезд чарговай еўрапейскай місіі на Беларусь. «Наглядаецца працэс прызвычайвання да візітаў міжнародных дэлегацыяў, кожнай з якіх трэба даказваць адно і тое ж», – падкрэсліў Ю.Хадыка. Ён лічыць, што візіт ПА СЕ пасля ўнясення дэкаратыўных зменаў у выбарчае заканадаўства сведчыць за тое, што міжнародная супольнасць можа накіраваць наглядальнікаў на восеньскія выбары. ■

# Информационные войны Кавказа

## Беседа специального корреспондента НАШАЙ СВАБОДЫ с главным редактором Кавказского информационного бюро *Cibe* Мамедом Идиевым

**Мои друзья и знакомые не верят военным сводкам с Кавказа. Не верят сообщениям ни российской, ни чеченской стороны. Термин «информационная война» внушает многим уверенность в том, что обе стороны конфликта дают читателю предвзятую информацию. Одним словом – врут. Как и насколько?**

О работе чеченских журналистов мы говорим с главным редактором Кавказского информационного бюро *Cibe* Мамедом Идиевым. Мы встретились с ним в Тбилиси. Сейчас здесь живет много беженцев из Ичкерии, среди них есть журналисты, продолжающие исполнять свой профессиональный долг.

***— Скажите, Мамед, чем конкретно занимаются журналисты в вашем бюро?***

— Кавказское информационное бюро возникло в декабре прошлого года. Аббревиатура *Cibe* означает «кавказское информационное бюро», а слово «кибэ» к тому же по-грузински означает «лестница». Это организация грузинская, зарегистрированная в Тбилиси. Участвовали в создании информбюро грузинские и чеченские журналисты. Задача бюро – освещать события, происходящие на Кавказе, вокруг


Мамед Идиев

Кавказа, связанные с Кавказом. Естественно, самая больная тема – это Чечня. На втором месте – взаимоотношения Грузии и Абхазии. Мы стараемся добывать новости из Армении, Азербайджана, республик Северного Кавказа. Издаем газету «Война и мир», размещаем информацию в Интернете, распространяем по другим информационным агентствам. Есть у нас студия, которая делает документальные фильмы.

***— Вы делаете документальные фильмы о чеченской войне, передаете оперативную информацию с той стороны Кавказа – значит, есть конкретные люди, корреспонденты, операторы, которые этим занимаются на месте?***

— У нас есть связь с Чечней, информация оттуда поступает, но, к сожалению, не столь регулярно, как хотелось бы. Часто очевидцы событий вынуждены передавать сведения через третьих лиц. Мы старались налаживать связь с некоторыми российскими агентствами. Есть две конфликтующие стороны, и получать информацию с обеих сторон никому не помешает. Хотя бы для более или менее реальной оценки происходящего. А то когда выступает генерал Манилов и говорит, что сегодня уничтожено 150 боевиков и только один российский солдат ранен – это явный абсурд, и, тем не менее, российские телеканалы его распространяют. Не все так гладко, как говорят российские генералы. Федеральные войска несут большие потери. И не так уж велики потери среди боевиков. Среди чеченских граждан – да. Только что пришла информация, что село Агишти обстреляла российская артиллерия – шесть человек погибло, двадцать человек ранено. Все жители говорят: это сделала российская армия.

***— По вашим данным, каковы потери среди чеченских ополченцев, федеральных войск, мирного населения Чечни?***

— Я не буду ссылаться на то, что говорит на этот счет удуговский *«kavkaz.org»*. Сошлюсь на российский Фонд защиты гласности. Если даже они заявляют, что официальные потери российских войск занижены в 7 раз... Только по министерству обороны официально погибло больше 2.000 человек – умножьте это на 7, и картина будет ясна. Очень большие потери чеченской стороны, но повторяю, потому что федералы не разбирают, боевик - не боевик. Они уничтожают всех подряд.

***— Вы упомянули о различии вашего сайта в Интернете от сайта Удугова, но, тем не менее, абсолютно все источники информации со стороны чеченцев часто обвиняются в работе на пропаганду. Как можно это прокомментировать?***

— Наш сайт называется *«nohchy»* («нохчи» – само название чеченцев. – **Т.С.**). Мы просматриваем всю информацию: из удуговского центра, из российских газет и сайтов. То, что мы иногда ссылаемся на те или иные источники, – естественно.

Я не знаю, как людей убедить: «Верьте мне, а не верьте, допустим, агентству ИТАР-ТАСС». Газета «Известия» опубликовали статью «На холмах Грузии шпионское гнездо». Все чеченские информационные центры в этой статье называются «разведывательными» или «подрывными центрами», которые угрожают благополучию России и особенно Северного Кавказа. Россия говорит, что мы занимаемся террористической пропагандой, которая угрожает вообще всему миру. Нет, мы критически относимся к деятелям как одной воюющей стороны, так и другой. Просто мы понимаем все нюансы, отрицательные стороны войны. Мы не стараемся переубедить людей в том смысле, что мы одни говорим правду, а остальные – неправду. Если человека реальные события до сих пор не переубедили, то слово вряд ли его убедит. Пусть люди получают информацию и кому настроены больше верить – тому пусть верят. ■


Пострадавший чеченский беженец в селе Омало (Грузия)

**Беседовала Татьяна СНИТКО**



# «Зачыстку» не прызнаў суд

## Маладзечанскі «Рэгіянальны цэнтр грамадскіх ініцыятываў» перамог у судзе пазазаконную камісію Замяталіна

**Таццяна РЭВЯКА**

**Грамадскі сектар Беларусі фактычна падзелены дзяржаўнымі структурамі на «сваіх» і «чужых». Для прадзяржаўных грамадскіх аб'яднанняў, якія абслугоўваюць ідэалогію ўлады, ствараюцца спрыяльныя ўмовы, раздаюцца розныя льготы, а тым, хто імкнецца захаваць сваю незалежнасць і рэалізоўваць грамадскую ініцыятыву самастойна, – пагражае знішчэнне. Адзін з такіх спосабаў — рэгістрацыя і перарэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў, распачатыя пасля ўвядзення ў дзеянне вядомага дэкрэта прэзідэнта РБ. Створаная А.Лукашэнкам пазазаконная камісія, якую ўзначальвае Ул. Замяталін, прымае канчатковае рашэнне – будзе ці не будзе існаваць тая ці іншая арганізацыя.**

Многія няўрадавыя арганізацыі не прайшлі «зачысткі», але ёсць прыклады таго, як некаторым удалося адстаяць сваё права на існаванне. Адна з іх – «Рэгіянальны цэнтр грамадскіх ініцыятываў», якой прыйшлося гэтае права даказваць у судзе. «Рэгіянальны цэнтр грамадскіх ініцыятываў» са штаб-кватэрай у Маладзечне распаўсюджвае сваю дзейнасць на Валожынскі, Маладзечанскі, Вілейскі і Мядзельскі раёны. Арганізацыя ўзнікла ў лютым бягучага года і фактычна стала пераемніцай ранейшага «Цэнтра грамадскіх ініцыятываў», які не прайшоў перарэгістрацыі. Заснавальнікі, каб умагчыміць працяг працы ў ранейшым накірунку, вырашылі стварыць новую арганізацыю.

У пачатку лютага гэтага года заснавальнікі падалі дакументы на рэгістрацыю «Рэгіянальнага цэнтра грамадскіх ініцыятываў» ва ўпраўленні юстыцыі Мінаблвыканкама. Пасля выпраўлення ўказаных недахопаў у статуце ўпраўленне юстыцыі зрабіла заключэнне, што перашкодаў для рэгістрацыі Цэнтра няма, і перадало дакументы ў Камісію па рэгістрацыі, якую ачольвае палкоўнік Замяталін. Праз некаторы час гэтая камісія «заключыла», што ў рэгістрацыі трэба адмовіць, аднак прычынаў «чаму трэба?» — не называлася. Заснавальнікі арганізацыі, нязгодныя з такім вынікам, падалі скаргу ў Мінскі абласны суд. Першае судовае паседжанне адбылося 21 ліпеня. У якасці адказчыка прысутнічаў прадстаўнік з упраўлення юстыцыі Мінаблвыканкама, які прадставіў у якасці адзінага аргумента адмовы — рашэнне камісіі. Калі суддзя Г.Комель запытаўся, якія мінюст мае прэтэнзіі па дакументах, прадстаўнік адказаў, што ніякіх прэтэнзіяў няма і іхнае заключэнне – рэгістраваць можна. А на пытанне суддзі, ці лічаць яны абгрунтаванай скаргу, пададзеную на іх у суд, ён адказаў – не, бо ўпраўленне юстыцыі можа рэгістраваць толькі па заключэнні замяталінскай камісіі. Нават суддзі прыйшлося прызнаць, што тут існуе нейкае замкнёнае кола, і каб праясніць сітуацыю, ён вырашыў запрасіць на наступнае судовае паседжанне прадстаўніка з камісіі з пратаколам, у якім зафіксаваная матывіроўка адмовы.

25 ліпеня адбыўся працяг суда. Прадстаўнік камісіі на судовае паседжанне не з'явіўся, а калі супрацоўніца ўпраўлення юстыцыі звярнулася з запытам, каб ёй прадставілі пратакол таго паседжання, на якім разглядалася пытанне аб адмове ў рэгістрацыі «Рэгіянальнага цэнтра грамадскіх ініцыятываў», ёй адказалі, што такія пратаколы не вядуцца. З камісіі прадставілі толькі выпіску з рашэння, ды зноў – без усялякіх каментароў і тлумачэнняў.

Тое, што камісія дае адмовы, нічым не матывуючы іх (закон прадугледжвае матывіроўку), прывяло і суддзю, і пракурора ў пэўнае замяшальніцтва. У гэтай сітуацыі нават пракурор стаў на бок істцоў, выносячы сваё заключэнне, што няма прычынаў для адмовы. І суддзі прыйшлося прызнаць, што, паколькі адсутнічае матывіроўка адмовы, скарга заснавальнікаў арганізацыі абгрунтаваная і ў рэгістрацыі адмоўлена незаконна. Суд абавязаў упраўленне юстыцыі зарэгістраваць арганізацыю на працягу месяца. ■

# Легенды і рэальнасць Лошыцкай сядзібы

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**Лошыцкі парк добра ведаюць жыхары двух мінскіх раёнаў — Серабранкі і камвольнага камбіната. Яго векавыя дрэвы відаць з вокнаў іх дамоў. Лошыцкі парк у большасці з іх выклікае асацыяцыі з першым каханнем, гулянкамі на прыродзе і дармавымі яблыкамі, якія можна збіраць без пагрозы быць злоўленым. Пра наяўнасць у яго цікавай гісторыі здагадваюцца адзінкі.**

## Гісторыя быцця

Упершыню Лошыца ўзгадваецца ў дакументах 1557 года. Тады зямля належала князю Васілю Талочынскаму. Ад яго яна перайшла ва ўласнасць роду Друцкіх-Горскіх, якія валодалі ёй да 1719 года. Затым гаспадаром Лошыцы сталі Пруշынскія, пасля — Іван Любанскі. Яго сын Яўстафій Любанскі быў апошнім уладаром Лошыцкай сядзібы. Пры ім маёнтак стаў лепшай гаспадаркай Міншчыны і мясцовым асяродкам культурнага жыцця.

Яўстафій Любанскі – фігура найбольш каларытная з усіх лошыцкіх гаспадароў. Быў ён дэпутатам Першай Дзяржаўнай думы, старшынёй мінскага таварыства веласіпедыстаў, сябраваў з эсэрамі, меў дачыненне да замаху на жыццё мінскага генерал-губернатара Курлава. У 1906 годзе баявік Іван Пуліхаў кінуў у губернатара бомбу, але яна не выбухнула. Пуліхава павесілі, а Любанскі застаўся жыць са сваёю непрыязнасцю да ўсіх губернатараў.

Па некаторых звестках, непрыязнасць гэтая мела даволі спецыфічныя прычыны. Жонка Яўстафія, Ядзвіга Любанская, была ў таемнай сувязі з графам Мусіным-Пушкіным, які ў 1901-1905 г. быў мінскім губернатарам. Гэты любоўны раман і прывёў Ядзвігу Любанскую да трагічнага канца. Не вытрымаўшы пакутаў кахання, скончыла яна жыццё самагубствам, утапіўшыся ў рэчцы. На месцы яе смерці пасадзіў Любанскі манчжурскі абрыкос, які цвіце і цяпер.

Цэнтральны дом Лошыцкай сядзібы, падмурак якога датуецца канцом 16-га стагоддзя, менавіта пры Яўстафіі Любанскім набыў канчатковы выгляд, які захаваўся да нашых дзён. Да драўлянага корпуса дома быў прыбудаваны каменны аб'ём, сцены абліцавалі дубовымі панэлямі, каміны і печы аздобіла унікальная кафля, якая і сёння не мае аналагаў у краіне. У парку ўтварылі сістэму палянаў, візуальна злучылі сядзібны дом з млынам.

У 1896 годзе Любанскі пашырыў свой бровар, які працаваў амаль да эпохі барацьбы з алкагалізмам часоў Гарбачова.

Менавіта ў 19 стагоддзі Лошыца цвіла. Цвіла асабліва моцна, быццам здагадваючыся, што такая магчымасць можа хутка знікнуць на доўгія гады.

## Савецкая непрытомнасць

Што было з Лошыцкай сядзібай у першыя гады бальшавіцкай улады, невядома. Па чутках, у дваццатых гадах тут месцілася ГПУ. І менавіта гэта дае падставы разглядаць зараз Лошыцкі парк як першыя Курапаты, дзе безвінна расстраляныя тысячы людзей.

У 1925 годзе па ініцыятыве Мікалая Вавілава ў Лошыцы адкрылі Беларускае аддзяленне Усесаюзнага інстытута раслінаводства. Вавілаў быў у захапленні ад глебаў, багатых гумусам, як нідзе на Беларусі, ад аптымальнага залягання грунтовых водаў, ад ландшафтных умоваў. За лічаныя гады з'явіліся шматлікія кветнікі, раслінныя гадавальнікі, доследныя дзялянкі. Лошыца магла пахваліцца больш чым 40 рарытэтнымі для Беларусі відамі і формамі раслінаў і дрэваў: магнолія, лістоўніца японская, гінкго двухлопасцевы, востралісны клён...

Але адносіны дзяржавы да селекцыі як навукі хутка змяніліся. Селекцыя стала «чуждой советскому человеку». Інстытут з'ехаў, а саўгас, створаны ў свой час для дапамогі навукоўцам, атрымаў усе землі Лошыцкага парку. Гаспадаранне вялося ў лепшых савецкіх традыцыях. Унікальныя расліны знішчаліся з неймавернай хуткасцю, стогадовыя дрэвы высякалі без кроплі шкадавання. Гэта тады чыгунныя брамы з непаўторным мастацкім ліццём звезлі на металалом. А свінцовую труну Ядзвігі Любанскай, якая вісела ў капліцы з 1905 года, адправілі на акамулятары для мясцовай МТС.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны ў Лошыцкай сядзібе не раз адбываліся нарады гебіткамісараў і зондэрфюрэраў. У 1943-ім такую нараду, разам з самой сядзібай, вырашылі падарваць беларускія партызаны. Тры жанчыны з абслугі – сёстры Чыжэўскія і Надзея Майсеева — атрымалі выбуховую машыну, змайстраваную з некалькіх гранатаў і дзесяці кілаграмаў толу, і схавалі яе ў печку гасцінай. Але міну знайшлі, жанчын расстралялі. Вуліцу, на якой месціца лошыцкі комплекс, пасля вайны перайменавалі ў гонар сясцёр Чыжэўскіх.

Падчас вайны з-за бамбёжак моцна пацярпеў трохпавярховы млын, была разбураная адна са старэйшых беларускіх пабудоваў – лошыцкая капліца, якая апошні раз перабудоўвалася ў 1788 годзе, і пашкоджаны магільны склеп.

## Стан агоніі

Цяпер Лошыца гіне. Ціха адлічвае яна апошнія свае гады два ці тры, калі яшчэ магчымае ўратаванне. Чаму ж можа спыніцца яе жыццё?

Складанасць вырашэння шматлікіх праблемаў не ў апошнюю чаргу звязаная з нявызначанасцю адзінага гаспадара лошыцкага комплексу. Парк належыць спецыялізаванаму арэнднаму прадпрыемству Мінгарвыканкама «Мінскзеленбуд», а сядзібны будынак – Нацыянальнаму мастацкаму музею.


Фота Ул. ШЛАПАКА

Палац Лошыцкай сядзібы, якому болей за 200 гадоў

У музея на сённяшні дзень няма магчымасці ўтрымліваць сядзібу. Таму і рэстаўрацыя цягнецца дванаццаты год. Грошай да сядзібы даходзіць самы мінімум. Дзяржава выдаткоўвае іх не на спецрахунак «рэстаўрацыя Лошыцкай сядзібы» (як дарэчы, звычайна робіцца паўсюдна), а на рамонт усяго Нацыянальнага музея. І музей потым сам вырашае, якому свайму філіялу колькі фінансаў даць. А філіялаў, між іншым, шэсць, таму перавага часта аддаецца зусім не Лошыцкаму парку. Хаця крытэрыі, па якіх вызначаецца ступень неабходнасці грошай таму ці іншаму філіялу, могуць здацца даволі спрэчнымі. Адкрыццё, напрыклад, музея Заіра Азгура можна аднесці да справаў неабходных, але чамусьці складана параўнаць яго з патрэбнай рэстаўрацыяй Лошыцкай сядзібы.

Між тым кроквенная сістэма будынка амаль цалкам згніла, прасадкі падмурка разбураныя, цокаль у трэшчынах, якія павялічваюцца.

Такой сядзібе можа пратрымацца яшчэ каля двух гадоў, потым проста пачне абвальвацца столь. Страпільна-балачная сістэма не мянялася тут з 1895 года. Тады Яўстафій Любанскі замяніў толькі гнілыя бярвенні, а моцныя на той момант пакінуў. Сёння ім каля двухсот гадоў. Бярвенні такога ўзросту ў перакрыццях будынкаў нясуць у сабе небяспеку, таму цяпер хадзіць спакойна можна далёка не па ўсім доме. І наведвальнікаў у сядзібу перасталі пускаць пасля таго, як на школьнікаў, якія займаліся тут у гістарычным гуртку, абваліўся вялікі кавалак тынку.

Па словах Юрыя Галаўко, дырэктара Лошыцкага сядзібнага дома, у 1992 годзе на поўную рэстаўрацыю будынка неабходна было каля пяцісот тысяч долараў. Тады такіх грошай не знайшлося.

У 1999 годзе Нацыянальны музей выдаткаваў на Лошыцу каля 4 млн. рублёў. Гэтага хапіла толькі на ўзнаўленне адмосткі будынка.

З паўгода таму пачала мусіравацца ў прэсе тэма магчымай перадачы сядзібнага Лошыцкага дома «Мінскзеленбуду». Мауляў, і гаспадар адзін будзе, што дазволіць больш эканомна весці гаспадарку, і фінансаў у «Мінскзеленбуда» дастаткова, каб правесці рэстаўрацыю, і план будучага функцыянавання Лошыцкага комплексу ўжо дасканала распрацаваны. План гэты, дарэчы, прадугледжваў стварэнне ў Лошыцы жывога музея беларускай культуры, размяшчэнне ў будынку элітарнага рэстарана, адкрыццё тут загараднай рэзідэнцыі мэрыі, дзе б ладзіліся прыёмы на самым высокім узроўні.

Адкрытым тэкстам казалася пра тое, што маёнтак сам павінен зарабляць на сваё існаванне, прыносіць прыбытак. Пра якую гістарычную унікальнасць можа ўжо ісці размова!

Але чаму гістарычны помнік, які ахоўваецца дзяржавай, павінен зарабляць сабе на жыццё, прыносячы ў ахвяру галоўнае сваё прызначэнне – проста быць помнікам?

Чаму дзяржава, маючы магчымасць фінансаваць «Славянскі базар», не можа знайсці патрэбныя сродкі і правесці рэстаўрацыю?

Калі сёння фінансаванне не пачне весціся праз міністэрства культуры з мэтавым прызначэннем для Лошыцкай сядзібы, дык заўтра сядзіба можа застацца толькі ўспамінам. Магчыма, некаму надта гэтага хочацца. ■


Фота Ул. ШЛАПАКА

Стары Лошыцкі парк суседнічае з мінскім камвольным камбінатам

# Культура Беларусі на CD

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Творчая група *ArtPlac*, арганізаваная на базе Беларускага нстытута праблемаў культуры пры міністэрстве культуры, рыхтуе серыю мультымедыйных выданняў «Культура Беларусі. Лепшыя старонкі». Між іншым, з краінаў колішняга СССР мы станем першымі, дзе ажыццяўвіцца падобны праект. А прэзентацыя першага такога кампакт-дыска адбудзецца ў верасні.**

На ім сабраныя 4 выпускі серыі: «Архітэктура Беларусі», «Беларуская абразапісная школа», «Беларускі традыцыйны касцюм» і «100 рарытэтаў з музеяў Беларусі». Кожны раздзел складаецца з ілюстрацыяў па тэме і тэрміналагічнага слоўніка ў дадатак, прычым на пяці мовах: беларускай, расійскай, англійскай, нямецкай і французскай. Усяго тут змесціць болей 1.000 ілюстрацыйных і даведачных пазіцыяў, у тым ліку некалькі відэакліпаў. У якасці суправаджэння да прагляду будзе гучаць старадаўняя аўтэнтычная беларуская музыка. Каштаваць CD-дыск будзе досыць дорага – каля 23 тысяч рублёў. Але і якасць у адрозненне ад тых, што прадаюцца на рынках па коштах у 7 разоў танней, таксама адпаведная.

Аўтар ідэі і кіраўнік праекта, загадчык лабараторыі інфарматыкі Беларускага інстытута праблемаў культуры Аляксандр Шыфрын кажа, што змест гэтай культурніцкай мультымедыйнай серыі не паўтарае ўжо існуючую тэматычную літаратуру: збор матэрыялаў пры ўдзеле вядучых мастацтвазнаўцаў і лінгвістаў вёўся нанова. Пры гэтым спрэчак па селекцыі таго, што вартае ўключэння ў «Лепшыя старонкі», а што – не, было дастаткова. Але, прынамсі, адзін недахоп кампакт-дыска пры ўсім тым, што гэта падзея ў культурным жыцці, ёсць: ягоны змест абмежаваны выключна тым, што маецца ў Беларусі. Але пры іншых падыходах той жа раздзел «100 рарытэтаў» можна было скласці не толькі з таго, што знаходзіцца ў беларускіх музеях. Напэўна, палову яго сфармавала б тое з нашай гістарычна-культурнай спадчыны, што апынулася за мяжой.

Вялікія спрэчкі разгарэліся і наконт таго, з якой мовы – беларускай ці расійскай – рабіць пераклады. У выніку творчая група дамагалася, каб, напрыклад, назвы элементаў беларускага касцюма, якія не маюць англійскіх ці нямецкіх адпаведнікаў, гучалі на гэтых мовах у беларускай транскрыпцыі. Як, дарэчы, і назвы гарадоў – дапусцім, не «Гродно», а «Гродна».

Адбілася творчая група і ад настойлівага пажадання мінкультаўскіх чыноўнікаў, каб на вокладцы кампакт-дыска змясціліся лукашэнкаўскія сцяг і герб.

Агульны наклад выдання плануецца да 10 тысяч асобнікаў. Мяркуецца, што асноўнымі патэнцыйнымі пакупнікамі стануць музеі, школы, а таксама замежныя беларусісты і дыпламатычныя прадстаўніцтвы. Напачатку з-за недахопу сродкаў «Культура Беларусі. Лепшыя старонкі» стане выдавацца дробнымі партыямі па перадаплаце. ■




Раздзелы кампакт-дыска «Культура Беларусі. Лепшыя старонкі»

ПАГАЛОСКІ

## Нечаянная наследница Мастрояни



Жительница Израиля, которая утверждает, что она дочь итальянского актера Марчелло Мастрояни, требует выплатить ей 50 млн. долларов из его наследства. «Я никогда не знала, что Марчелло Мастрояни был моим отцом», – сказала Иехудит Бауман, мать трех известных в Израиле моделей. Как сообщает агентство ЭФЭ, около полугода назад И.Бауман позвонил некий голландский аудитор, который сообщил, что у него имеются документы, подтверждающие, что она является дочерью актера, умершего в 1996г. в возрасте 72 лет. И.Бауман рассказала, что своим появлением на свет она обязана коротким романом ее матери Юлии Розенталь и М.Мастрояни в 1950-х годах. По словам адвоката женщины, в настоящее время она ведет переговоры с представителями наследников актера в Голландии и Италии. ■

## «Золотой треугольник» против наркотиков

Страны Ассоциации государств Юго-Восточной Азии (АСЕАН) обязались к 2015 году ликвидировать на своих территориях производство наркотиков. Таков один из результатов завершившегося во вторник в Бангкоке совещания министров иностранных дел АСЕАН, в которую входят Бруней, Вьетнам, Индонезия, Камбоджа, Лаос, Малайзия, Мьянма, Сингапур, Таиланд и Филиппины.

Как отмечает агентство ЭФЭ, так называемый «золотой треугольник», охватывающий Камбоджу, Лаос и Мьянму, является одним из крупнейших в мире производителей героина и синтетических наркотиков, которые затем контрабандными путями переправляются в различные страны мира.

Среди других тем, обсужденных на встрече глав МИД стран-членов АСЕАН в Бангкоке, – незаконная торговля оружием и нелегальная иммиграция. ■

INTERFAX

ПОШТА

## Першы прэзідэнт Францыі Банапарт

Многія журналісты параўноўваюць рэжым, які склаўся сёння на Беларусі, то са сталінізмам, то з гітлерызмам. Але гэтыя рэжымы абапіраліся на бальшавіцкую ці фашысцкую ідэалогіі. Ніякай ідэалогіі сёняшнія ўлады Беларусі стварыць не здолелі. Таму з'ява, якая атрымала ў нашым грамадстве назву «лукашызм», на справе ёсць класічны «банапартызм».

На хвалі рэвалюцыі 1848г. у Францыі была абвешчаная рэспубліка і новая канстытуцыя, якая ўводзіла прэзідэнцкую пасаду. Прэзідэнт выбіраўся на 4 гады (і толькі на адзін тэрмін), фарміраваў урад, быў галоўнакамандуючым і г.д.

На выбарах з пяці кандыдатаў перамог Луі Банапарт (за яго прагаласавала сялянства, якому паабяцалі адмену высокіх падаткаў, і частка гарадскога насельніцтва, якая імкнулася да «цвёрдай рукі»). Стаўшы прэзідэнтам, Луі Банапарт на ўсе ключавыя пасады паставіў сваіх прызначэнцаў. Але з траўня 1849 г. пачаў дзейнічаць апазіцыйны яму заканадаўчы сход. Таму пасля няўдалых спробаў правесці праз гэты парламент закон аб выбранні прэзідэнта на другі тэрмін змоўшчыкі на чале з прэзідэнтам у снежні 1851 г. здзейснілі дзяржаўны пераварот. Заканадаўчы сход быў распушчаны, палітычныя дзеячы, варожыя банапартызму, арыштаваныя. У апошнія дні 1851 г. у краіне быў праведзены плебісцыт у падтрымку прэзідэнцкай палітыкі. Адпаведны кантроль над народным галасаваннем даў неабходныя Банапарту галасы.

Праз год Луі Банапарт абвясціў сябе французскім імператарам Напалеонам III. Амаль на дваццаць гадоў краіна апынулася ў абстаноўцы пераследу іншадумства і панавання тайнай паліцыі. У той жа час стваралася бачнасць народаўладдзя. У канцы 1860-ых гадоў крызіс у эканоміцы выклікаў хвалю выступленняў супраць урадавай палітыкі. Напалеон паспрабаваў развязаць «маленькую, пераможную» вайну супраць Прусіі ў 1870 г., якая скончылася крахам рэжыму.

Адзін з класікаў марксізму трапна вызначаў, што банапартаўская ўлада «прымушаная эквілібрываваць, каб не ўпасці, фліртаваць, каб кіраваць, падкупляць, каб надабацца, братацца з падонкамі грамадства, з прамымі злодзеямі і жулікамі, каб трымацца не толькі на штыку».

Цяперашняя наша ўлада таксама чапляецца за нейкія састарэлыя псеўдакамуністычныя прынцыпы, будуе адміністрацыйна-рынкавы гібрыд у эканоміцы і ў той жа час вядзе са сваім народам і з сусветнай супольнасцю гульні ў «дэмакратыю». ■

**Зміцер БЫКОЎСКІ, Мінск**

# «Catch 22» Европейского Союза

**Уффе ЭЛЛЕМАНН-ЙЕНСЕН, бывший министр иностранных дел Дании**

**Появляется все больше знаков того, что процесс расширения Европейского Союза теряет скорость. Однако включение новых стран Центральной и Восточной Европы, а также стран Балтийского региона, остается единственной главной задачей на повестке дня ЕС. Откладывание решения этой задачи может стать ошибкой исторического масштаба. Потому что остановка этого процесса может привести к серьезной угрозе стабильности Европы, которая намного превысит стоимость расширения.**

Расширение, безусловно, столкнется со многими практическими проблемами. Но не стоит преувеличивать величину экономических затрат: в конце концов, общий ВНП десяти стран-претендентов из бывшего коммунистического блока является меньше ВНП одной Голландии! Ожидается, что стоимость структурной поддержки новым членам от ЕС будет меньше 4% голландского ВНП. Масштабной передачи благосостояния наподобие той, что мы наблюдали между Западной и Восточной Германией, не произойдет.

Стоимость, конечно, не является единственной сложностью. Еще одна проблема касается создания внутри стран-претендентов на вступление в ЕС таких административных и демократических структур, которые были бы совместимы со структурами, уже существующими внутри ЕС. Но если действующие члены ЕС выдвинут слишком высокие требования для новичков, они рискуют оказаться в ситуации, описанной в книге «Catch 22». В своей новелле Джозеф Хеллер осветил ситуацию, с которой столкнулись пилоты во время Второй мировой войны: медики могут отстранить от полетов любого пилота с нарушенной психикой, но только если он об этом попросит. Поскольку страх перед лицом опасности является нормальной человеческой реакцией, любой пилот, просящий об отстранении от полетов, не может быть ненормальным и посему не подлежит отстранению. Это – «Catch 22» («Уловка 22»).

То же самое можно сказать и о вступлении в ЕС: вы можете вступить в ЕС, только если вы отвечаете определенным стандартам Союза, но вы никогда не вступите в ЕС, потому что, чтобы достичь этих стандартов, вам необходимо быть членом ЕС.

Помните, что интеграция Европы является политическим предприятием. Экономика – это средство, политика – цель. Это было ясно высказано в преамбуле к Договору, подписанному в Риме более 40 лет назад: «...объединяют свои ресурсы для поддержания и сохранения мира и свободы...». Шесть стран-основателей: Германия, Франция, Италия и страны Бенелюкса несколько раз вступали в войну друг против друга в первой половине XX века. Однако сейчас война между членами ЕС не только труднопредставима, но и невозможна. Это является доказательством главного аргумента: интеграция Европы в первую очередь является инструментом сохранения и укрепления мира и свободы.

Этот принцип был ведущим при последних расширениях ЕС, включивших демократии, которые в то время были еще очень юными и хрупкими: вначале Грецию, потом Испанию и Португалию. Включение новых демократий Западной и Восточной Европы и стран Балтии было бы в полном соответствии с этим изначальным принципом. Процесс не должен быть отложен из-за недостатка перспективы.

Один угол Европы особенно нуждается в быстром принятии решения: Балтийский регион. Эстония, Латвия и Литва не могут вступить в NATO в обозримом будущем. Поэтому необходимо ввести их в ЕС как можно скорее, чтобы дать понять их большому соседу, России, что в сегодняшней Европе «сферы интересов» уже не существуют, что Балтийская тройка является равноправным членом европейской семьи.

Когда этот вопрос обсуждается с нашими американскими союзниками, они не способны понять, почему ЕС, объединяющий 350 миллионов людей, медлит с принятием меньше чем 8 миллионов в свои ряды, чтобы снести исторические заборы. Включение Литвы, Латвии и Эстонии могло бы укрепить стабильность на Балтийском регионе, потому что правила игры стали бы абсолютно ясными для всех как относительно безопасности, так и относительно прав человека и национальных меньшинств. Для рискованных предприятий с обоих сторон просто не осталось бы места.

Увы, как всегда, «дьявол живет в деталях». Институты ЕС изначально были созданы для шести стран, но в течение десяти или двадцати лет ЕС, возможно, будет иметь 25-30, если не больше, членов-государств. Поэтому реформа жизненно необходима. Но призыв к реформам может служить и как тактика для замедления процесса. Когда я слышу великие речи о европейском будущем, составленные недавно некоторыми политическими лидерами ЕС, меня пугает мысль, что эти речи не имеют никакой цены, если они придуманы лишь для покрытия недостатка энтузиазма перед лицом трудностей, связанных с расширением ЕС.

Сейчас не время для обсуждения далеко заходящих в будущее перспектив и не время создания «внутренних кругов» в ЕС. Сейчас наступило время дать конкретное направление и взять конкретные обязательства в отношении расширения. Потому что задача Европы – сохранение и укрепление структур сотрудничества, которые содержат преимущества разнообразия и независимости, без пробуждения старого проклятия европейских государств: ксенофобии, кровопролития и войны. Более сильный, более широкий Европейский Союз должен стать нашим приоритетом. ■

© Project Syndicate



Таллинн – столица Эстонии



Рига – столица Латвии



Вильнюс – столица Литвы

КНІГАРНЯ

З пачатку кнігадрукавання, ужо пяць стагоддзяў, лепшым падарункам сярод культурных людзей была і застаецца кніга. Для сённяшняй збяднелай Беларусі – кніга не толькі культурны, а, па сутнасці, і самы танны падарунак, які можна з гонарам зрабіць сябрам, родным, дзецям.

Дастойныя для падарунка беларускія кнігі можна знайсці на кніжнай выставе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 11). У час летніх вандровак, сустрэчаў, выправы дзяцей за мяжу на выздараўленне варта мець для прэзентаў лепшую прыкмету нацыянальнай культуры, чым бутэлька гарэлкі.




Тэлефон кніжнай выставы – **284-85-11**.




Аптовы продаж выдання «Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей». **239-15-32**.




Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
УП «Паліграфкамбінат ім. Я.Коласа» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1793 Нумар падпісаны ў друк 27/07/2000 (15:00) Наклад – 9.190